

# СЭРЦАМ СТАЛІНА САГРЭТЫ

(З 12 песень аб ЧЫРВОНАЙ АРМІІ)

Упрыгожым нашы хаты,
І вянкі саўём на браме,
Ды накрыем, як у свята,
Стол калгаснымі дарамі:
Хлебам, мёдам, сырам, мясам...
Хоць і проста, але шчыра,
Запрашаем вас калгасам,
Вас, байцы і камандзіры.
Вы—апора наша, сіла,
Наша радасць, наша слава,
Нам бяседа з вамі міла,
З вамі бавіць час цікава.
Чым багаты—тым і рады.
Сваё ўсё: пітво, закускі,
Сок пладовы з свайго саду,
Віна з ягад беларускіх.
У бяседзе, у прыязнай
Прыгадаем нашы былі,
Як у час ліхі, адказны
Мы на ворага хадзілі.
Шчыльна злітаю калонай,
Сэрцам Сталіна сагрэты,
Сілу Арміі Чырвонай
Паказалі ўсяму свету.
Хто-ж памкнецца—песня спета:
Госць нязваны будзе біты.
Няхай вораг помніць гэта,
Вораг тайны і адкрыты.

ІСКРЫ ІЛЬІЧА

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ

ОРГАН ЦК ЛКСМБ

ЛЮТЫ 1939 г. № 2

# БУДЗЕМ ТАКІМІ ЯК БАЦЬКА



Тацяна ФРУНЗЕ



Наш бацька Міхаіл Васільевіч Фрунзе памёр, калі мне было 5 год, а брату Тімуру— 3 годы.

Я, старшая, ледзь памятаю, як у год смерці бацька прыязджаў да нас у Крым. Памятаю, як трагічнае паведамленне аб смерці бацькі мы атрымалі ў поездзе, калі вярталіся ў Маскву.

З намі бацька быў заўсёды вельмі ласкавы. Адзін час мы жылі ў Харкаве. Як і заўсёды, бацька працаваў вельмі многа. Але-ж ён знаходзіў час і для сваёй маленькай дачкі.

— А дзе мая Чынара?—запытваў ён яшчэ з парога і пачынаў маршыраваць, гучна стукаючы ботамі.

Мы бацьку ведаем галоўным чынам па апавяданнях блізкіх. Многае чулі мы ад бабулькі, ад сястры бацькі—Клаўдзіі Васільеўны і ад лепшага яго прыяцеля — Клімента Ефрэмавіча Варашылава.

Клімент Ефрэмавіч многа расказваў нам аб беззаветнай адданасці Фрунзе справе большэвізма, аб яго мужнасці, храбрасці, цвёрдасці і непахіснай воле, аб непрымірымасці да ворагаў рэволюцыі.

Годы тры таму назад мы з братам парашылі прачытаць работы бацькі і разам прачыталі амаль усе яго творы, якія сабраны ў трохтомніку твораў М. В. Фрунзе. Як жывы ўстаў перад намі вобраз нашага бацькі, светлы вобраз большэвіка, палкага барацьбіта за справу рэволюцыі. Чуткі і ўважлівы да людзей, ён быў суровым і смелым у баі, бязлітасным да ворагаў.

Мы многа чулі аб тым, што бацька наш быў таленавіцейшым палкаводцам. Яшчэ ў юнацкія годы ён захапляўся ваеннай гісторыяй і ўжо тады вельмі добра вывучыў яе. Многія таварышы, якія ведалі бацьку, успамінаюць, як у 1915 годзе ў ссылцы ён уважліва сачыў за ходам імперыялістычнай вайны і часта па карце тлумачыў таварышам ход ваенных дзеянняў. Таварышоў здзіўляла, як правільна ўмеў ён прадбачыць развіццё ваенных падзей, рух ваюючых армій.

Царскі суд два разы прыгаварваў бацьку да пакарання смерцю за работу ў большэвіцкім падполлі. Але бацьку нічога не магло ўстрашыць. У камеры смертнікаў ён вывучаў англійскую мову.

Мы ганарымся нашым бацькам. Мы ведаем, што імя Фрунзе, бясстрашнага камандарма, з удзячнасцю і любоўю ўспамінаецца мільёнамі працоўных нашай краіны.

Слухаючы апавяданні аб ім, перачытваючы яго палкія прамовы, мы гаворым: мы жадаем быць такімі, як ты, наш бацька! На рабоце і ў вучобе, у адносінах да людзей мы стараемся быць падобнымі на бацьку.

У выпадку небяспекі, у выпадку вайны мы абодва возьмем вінтоўкі і ўстанем у рады байцоў Чырвонай Арміі. Мы пастараемся быць дастойнымі нашага бацькі!

# З іменем СТАЛІНА на вуснах

Радасна мне было гасціць у бацькоў у маім родным горадзе Оршы. Я сустракаў столькі маіх знаёмых і прыяцеляў! Вось будынак школы-сямігодкі, якую я скончыў. Як нядаўна ўсё гэта было! Я не чакаю спецыяльнага запрашэння, але адразу-ж сам накіроўваюся ў сваю школу і там расказваю рэбятам і настаўнікам аб гарачых баях у раёне возера Хасан, аб нашых слаўных байцах і камандзірах. З якой увагай і захапленнем слухалі рэбята!



Таварыш Г. Н. Зябкін.

Асабліва ім спадабалася, калі я ім расказаў аб повары Мішы. У нашым падраздзяленні быў повар-багатыр! Плечы яго шырокія-шырокія, а сам ён высокі-высокі.

І вось наш повар Міша спраўляўся смачным абедам усіх байцоў накарміць і сам у атаку схадзіць. Міша быў у нас любіцель атак. Як толькі апошніх байцоў накорміць, ён ужо звоніць па палявому тэлефону:

— Таварыш камандзір, у атаку там ужо хутка пойдуць?

І браў тады дзядзя Міша вінтоўку, ішоў у атаку і багатырскім махам глушыў самураяў прыкладам.

— Нічога,—гаворыць Міша,—прыклад нашай рускай вінтоўкі вытрымае, а галовы самурайскія ў трэскі разлятаюцца.

Я, як і тысячы патрыётаў нашай вялікай радзімы, у баях з японскімі самураямі думаў толькі аб адным—даць самы рашучы адпор японскім свіным рылам, якія сунуліся ў наш савецкі агарод.

Мне было дано разведачнае заданне—перавесці маё падраздзяленне з аднаго месца на другое.

Была цёмная, цёмная ноч, у двух-трох кроках не відаць было чалавека. Спераду балота, коні вязнуць. Не гледзячы ні на што, мы прасоўваемся наперад. Японцы пачулі тупат нашых коней і адкрылі па насураганны гарматны і кулямётны агонь. Я рашыў з імі ў бой не ўступаць,—па кулямётнаму і гарматнаму агню ясна было, што праціўнік у многа раз большы лікам. Кулямётны агонь сляпіў нам вочы. У мэтах разведкі важна было перавесці маё маленькае падраздзяленне на новае ўказанае мне месца, і таму нам невыгодна было ўступаць у бой з праціўнікам і гэтым даць магчымасць сябе поўнасцю выявіць.

Вось мы, здаецца, вышлі на дарогу; у чорнай цемры мы абмацваем яе рукамі. Але вось па дарозе даносіцца гутарка—мы затоілі дыханне, чуем па гутарцы, што гэта ідзе група японцаў. Хочам іх узяць жывымі, гэта нам не ўдаецца. Але затое мы іх усіх тут знішчаем. Баявы загад мною выканан.

Я ганаруся тым, што на маю долю выпала задача знішчаць нягоднікаў, якія пасягнулі на нашу свяшчэнную совецкую зямлю.

З іменем вялікага Сталіна мы прагналі японскіх самураяў, з іменем таварыша Сталіна мы ўшчэнт разаб'ем любога ворага.

Удзельнік баёў у раёне возера Хасан
**Г. Н. Зябкін.**



Удзельнік баёў у раёне возера Хасан т. Зябкін сярод групы дзяцей горада Оршы.

# Адказ самураю

*Апавяданне пісьменніка-ордэнаносца Л. СОБАЛЕВА* *Рысункі Н. МАЛЕВІЧА*

Даклад падыходзіў к канцу.

Паперы, адна за другой, пераходзілі з правага боку раскрытай папкі на левы, і кожны раз у нізкім святле настольнай лямпы зіхацелі нашыўкі на рукаве таго, хто дакладваў.

Ён гаварыў нягучна. Флагман, які яго слухаў, адказваў яшчэ цішэй, і ў паузах, калі ён паглыбляўся ў чытанне, пакачваючы над лістамі тоўстым, але вельмі добра навостраным сінім алоўкам, цішыню кабінета парушаў толькі шолах перагортваемых старонак і сухі трэск разварочваемага чарцяжа ці карты. Калі-б лічбы, літары, умоўныя знакі чарцяжоў маглі гучаць, у кабінеце быў-бы грукат малаткоў, выццё свёрдлаў, візг піл і басістае гудзенне турбін, а лёгкі трэск чарцёжнай паперы гучаў-бы гулам цяжкіх гармат і шчыльнымі ўзрывамі мін: даклад меў тэмай пытанні будаўніцтва вялікага Ваенна-марскога флота.

Але паперы і чарцяжы ўмелі захоўваць тайну. Яны, як і скрытыя ў іх караблі і гарматы, былі маўклівыя. Да пары, да часу...

— Ну, усё?—спытаў флагман.

Той, хто дакладваў, узяў сіні вучнёўскі сшытак, які ляжаў у папцы апошнім.

— Ды вось, не ведаю, таварыш флагман флота першага ранга...—сказаў ён і ўсміхнуўся.—Пісьмо вам. Асабістае і зусім сакрэтна.

— А!—сказаў ён ажыўлена.—Гэта што — пра самураяў?.. Ну, ну, давайце!

Ён больш выгодна сеў, пацягнуўся за папяросай і раскрыў сшытак.

На клятчатай паперы старанным почыркам было выведзена буйна:

> Праект тав. Паткоўскага Мішы, піонера Зайсанскага атрада імені Варашылава, вучня 5-га класа, 12 год, сына пагранічніка N-скага атрада.

Унізе стаяў адрас школы і прыпіска: „Абавязкова прашу адказ“.

Другую старонку займала старанна перапісаная цытата з прамовы таварыша Молатава на сесіі Вярхоўнага Совета пра ваенна-марскі флот, і ўнізе—зноў трывожная прыпіска: „Абавязкова вельмі прашу адказ па адрасу“.

На трэцяй аўтар приступаў да выкладання. Спачатку ён паведамляў даныя пра сябе. Ён жыў у горадзе Зайсане, ва Ўсходнім Казахстане, ля самай кітайскай граніцы, і прызнаваўся, што мора ніколі не бачыў, але што чытаў пра яго кнігі.

Затым прыводзіліся прычыны, якія прымусілі аўтара „многа задумвацца над абаронай СССР“:

„... Я ведаю, якая вялікая будучыня чакае мяне потым у маім жыцці,—я-ж піонер, потым буду комсамольцам, потым членам партыі. Тады наш Казахстан расцвіце, будзе вакол чыгунка і распрацоўкі гор, таму што ў нас ёсць свінец, медзь, каменны вугаль і інш. Тады наш Зайсан будзе хутка расці, як расліна, якую паліваюць. Я не хачу гэтым сказаць, што наш Зайсан зараз дрэнны, не—ён добры, і я заўсёды буду яго абараняць, тым больш побач граніца. Але справа ў тым, што ў вас, у цэнтры, жыццё кіпіць, як у самавары вада, а наадварот, наша жыццё ціхае. Але не! Гэта не надоўга, хутка і наш Зайсан будзе магутнай сталіцай Усходняга Казахстана, тым больш побач граніца, і няхай прыгнечаныя кітайцы хутчэй бачаць нашы небаскробы, наша метро і Палац юных піонераў, і магутныя калгасы вакол, і няхай хутчэй зробяць усё гэта ў сябе.

Васін брат нам расказваў, што ён чытаў, нібы японцы выдумалі магутны снарад пад назвай „Чалавек-тарпеда“, і што туды ло-

жаць чалавека, і ён кіруе тарпедай,—падганяе яе да самага карабля, і метка цэліцца без промаху, таму што ён-жа сам з гэтай тарпедай разам. Потым узрывае карабль назусім. І, вядома, сам прытым таксама ўзрываецца назусім, таму што ён сам ляжыць у гэтай тарпедзе, дзе порах. І што ў японцаў ёсць героі пад назвай „самураі“, якіх будуць лажыць у гэтыя тарпеды, і яны будуць цэліць у нашы караблі і ўзрываць іх, і самі, вядома, таксама ўзрывацца разам.

І мы тады заспрачаліся, што ў нас такія героі таксама ёсць, і нават колькі хочаш, і што Вася, і я, і ўсе піонеры нашага атрада таксама не спалохаюцца легчы ў такую тарпеду, а потым мы пайшлі ў клас і не даспрачаліся. Але потым я падумаў і сказаў Васе, што я ў тарпеду не ляжу. А калі ён пачаў цюкаць і гаварыць „баязлівец“, я спакойна сказаў, што гэта адны глупствы і што няхай гэтыя самураі паміраюць, а нам трэба не паміраць, а перамагаць, каб самому быць цэлым і будаваць далей вызваленне працоўных, як сказаў таварыш Сталін, што галоўнае—гэта людзі. А так памерці зусім не фокус, гэта ўсякі дурань здолее, і ніякага геройства тут няма, і яго самураі—дурні і проста задаюцца, а лепш выдумаць не могуць. І я сказаў, што абавязкова выдумаю, і пачаў ужо думаць, а потым забыў, таму што атрымаў адно „дрэнна“ па рускай мове і пачаў займацца, і пра вайну няма калі было. А потым, калі вывучалі ў атрадзе прамову В. М. Молатава, я ўспомніў зноў і пачаў думаць.



Цяпер раскажу, што прыдумаў, а вы, таварыш начальнік, абавязкова дайце адказ, верна я прыдумаў ці не, можа, памыліўся, але я думаю—верна.

Трэба такія тарпеды абавязкова рабіць і ў нас. І каб яны былі вельмі магутныя і ўзрывалі карабль назусім з аднаго разу. Туды трэба палажыць вельмі многа пораху і зрабіць дзве машыны—адну ў тарпедзе, ну пра гэтую вы ведаеце, а другую—тое, што не ведаеце: ззаду тарпеды,—там, дзе ляжыць чалавек, як я нарысаваў. І няхай яна ходзіць хутка, хутчэй чым зараз, хутчэй за ўсіх.

І тады ён у гэтай тарпедзе хутка падыйдзе да карабля і будзе цэліць сам, як той самурай, таму што ён-жа таксама з тарпедай разам. А вось потым, калі будзе зусімзусім побач і ўжо напэўна трапіць,—тады няхай націсне, дзе ў мяне нарысавана кнопка. Тады ён ад тарпеды адчэпіцца і ў маленькай лодцы, якая была ззаду тарпеды з другой машынай, няхай хутка паварачвае назад і хутка едзе да сваіх, каб яго не задавіла, калі карабль пачне падаць. І тады ён зноў бярэ другую тарпеду, прычапляе яе, як у мяне нарысавана, і зноў ідзе на ворага. І так і далей. Дурань самурай раз узарве і ўзарвецца сам, а наш герой яшчэ лепш навучыцца, як узарваць другі карабль.

Абавязкова дайце адказ і напішыце: што трэба яшчэ прыдумаць?

Прабачце, што дрэнна нарысаваў, няхай інжынеры зрысуюць, як трэба, і прышлюць мне, я праверу,—але і так усё зразумела. Галоўнае, што чалавек адчапляецца,—вось гэта герой. Трэба не паміраць, а перамагаць!

І я назваў гэты магутны снарад „Адказ самураю“. Няхай так і называецца, калі пабудуеце. Каб яны ведалі, што мы ўсёроўна лепш за іх прыдумаем, і няхай не задаюцца...“

Канец сшытка займалі рысункі і чарцяжы магутнага снарада. Флагман уважліва разглядаў іх, і субяседнік, які чакаў яго ўсмешкі, так яе і не дачакаўся. Флагман, нарэшце, узняў вочы, і субяседнік убачыў у іх мяккую ласку і хваляванне.

— „Трэба не паміраць, а перамагаць!..“—паўтарыў уголас флагман, беражна закрываючы сшытак.—Цудоўныя ў нас рэбята растуць!..

Ён устаў і падышоў да кніжных шаф, на якіх стаялі мадэлі караблёў. Падставіўшы

крэсла, ён зняў мадэль тарпеднага катэра і, вярнуўшыся да стала, працягнуў яе таму, хто дакладваў:

— Адпраўце-ка гэта Мішы... А пісьмо яму я сам напішу...

Пісьмо і пасылка ўскалыхнула ўвесь Зайсан.

Флагман пісаў Мішы, што праект яго выдатны, але што, на жаль, ён ужо ажыццяўлён з невялікімі тэхнічнымі змяненнямі і называецца тарпедным катэрам, мадэль і апісанне якога дадаецца. І яшчэ пісаў флагман, што ён загадаў надрукаваць Мішына пісьмо ў газеце, таму што Міша вельмі добра адказаў самураям. І што сапраўды, гераізм не ў тым, каб узрывацца разам з тарпедай, а каб умець своечасова адчапіцца і ўсё-такі перамагчы.

У канверт была ўкладзена яшчэ асобная запіска:

„Дарэчы, трэба гаварыць не „ложаць", а „кладуць", не „ляжу", а „лягу".

— Ну і што-ж!—сказаў Міша, увесь чырвоны ад сораму, хвалявання і шчасця, круцячы ў руках мадэль.—Прыдумалі ўжо, так прыдумалі. Я не абавязан усё ведаць! А я яшчэ прыдумаю. Я іх усёроўна перапрыдумаю!



# У ДАЗОРЫ

*Аркадзь КУЛЯШОЎ*

(Урывак з паэмы „Васіль Баранаў").

Зноў сёння чакалі нападу...
Байцам загадаў камандзір
З Баранавым выйсці ў засаду,
Гранаты раздаў ім:
— Вядзі...
Праходзяць ярамі сляпымі,
Іх сіберны паліць агонь,
Ідуць.
Паўстае перад імі
Граніца, закутая ў бронь.
Таежныя хвоі хістаюць
На вецях кашлатых зіму.
Развітваюцца,
жадаюць
Удачы адзін аднаму.
І дума адна у іх—аб справе,
Аб тым, каму клятву далі,
Хто так, як яны на заставе,
Начамі не спіць у Крэмлі.
Марозная ноч. У дазоры
У засадзе Баранаў Васіль.
Асляплі манчжурскія зоры
І нанач зацмілася сінь.
Пад небам суровым учора,
На ўзводзе трымаў ён курок,
Пакідаўшы раненых, вораг
Крывёй захлынуўся.
Уцёк.
І сёння чакалі нядарам
Квантунскіх налётчыкаў.
Зноў,
Раптоўным адпомсціць ударам,
На досвітку вораг прышоў...
З-за дрэў выглядае, і ярам
На кручу паўзе, да байцоў.
Іх мала.
А ворага—колькі?
Ці варта цяпер падлічаць?
Хай сотня, хай тысяча. Толькі
Задача адна—адстаяць!
За радам спяшаецца рад...
І сорак надзейных гранат
Б'юць ворага. Выбух. Удача.
Баранаў глядзіць:
афіцэр
У снег зарываецца, плача...
Зноў выбух.
„Канайце цяпер,
Як знаеце самі. Не раіў
Ніхто з нас, каб лезлі вы ў бой..."
Зноў выбух
Ланцуг самураяў
Засыпан агнём і зямлёй.



# ПАМЯЦІ СЕРГО ОРДЖАНІКІДЗЕ

18 лютага споўнілася два гады з дня смерці выдатнага дзеяча большэвіцкай партыі Грыгорыя Канстанцінавіча Орджанікідзе.

Таварыш Орджанікідзе ўсё сваё гераічнае жыццё аддаў барацьбе за справу працоўных.

Пад яго кіраўніцтвам наша краіна пабудавала магутныя заводы, якія вырабляюць аўтамабілі, трактары і іншыя складаныя машыны.

Таварыш Серго вельмі любіў дзяцей. Не гледзячы на сваю вялікую занятасць, ён заўсёды прыязджаў к дзецям, цікавіўся іх жыццём, вучобай і адпачынкам.

Таварыш Серго быў бліжэйшым саратнікам Леніна і Сталіна.

Памяць аб дарагім Серго будзе жыць вечна.

## СЕРГО ЛЮБІМЫ

***Сулейман СТАЛЬСКІ***

**(Урывак з паэмы)**

Шануем, любім голас твой,
Хадзіў са Сталіным у бой,
Працоўным горцам родны, свой,
Цябе завуць—Серго любімы.

Яшчэ да сонца, з даўніх пор
Здружыўся ты з народам гор,
Свабоды ўбачыўшы прастор,
Наступных дзён, Серго любімы.

Ты чуў у цемры волі гром,
Хто можа стаць большэвіком,
І ў дні Кастрычніка з клінком
Хто выйдзе ў бой, Серго любімы.

Хто з намі, верны да канца,
Пяройдзе шлях цяжкі байца
І не спужаецца свінца
Варожых куль, Серго любімы.

Ты многа выцярпеў за нас
У турмах, ссылках быў не раз,
І зноў з'яўляўся на Каўказ,
Змагаўся зноў, Серго любімы.

Мы славім тых, хто ў бой ішоў,
Адданых нам таварышоў—
Ты самы верны між сяброў,
Друг Сталіна, Серго любімы.

Ты з намі хлеб наш падзяляў,
Дзяцей ты нашых цалаваў,
Сяброў між намі выбіраў,
І гартаваў, Серго любімы.

Імя не сходзіць з языка,
Ў палоне струн мая рука,
І песня льецца, як рака,
Ўсё пра цябе, Серго любімы.



# Сям'я

*Апавяданне Я. МАЎРА* *Рысункі А. ШАХРАЙ*

Гэта было ў тысяча дзевяцьсот восемнаццатым годзе. У цёмны асенні вечар мне прышлося тады перапраўляцца праз Днепр у адзін з гарадоў Беларусі, які ў той час быў захвачан нямецкімі акупантамі.

Пераправіўся я цераз раку шчасліва, высадзіўся на акраіне, ніжэй горада, але нейкі двуногі сабака ўсё-ж такі заўважыў, і падняў шум. Таварыша, які мяне перавозіў, схапілі. Ён вырваўся, ускочыў у халодную ваду і паплыў назад. Немец стрэльнуў, але, відаць, так сабе, каб напалохаць, бо трапіць у гэтым туманным змроку было немагчыма. Тады ён ускочыў у човен і нагнаў майго таварыша каля сярэдзіны ракі. Таварыш учапіўся за край і перакуліў маленькі човен. Немец зарохкаў, як кабан, і паплыў назад, а мой таварыш у другі бок.

Аб усіх гэтых падрабязнасцях я даведаўся потым. А ў той час я скарыстаў мітусню і выбраўся вышэй на бераг. Тут былі маленькія вулічкі, хаткі, сустракаліся людзі. Для мяне цяпер самай важнай справай было—ухіляцца ад усіх сустрэчных, асабліва тады, калі я рабіў паварот у які-небудзь бок.

Такім чынам я вышаў зусім на край горада, дзе аставаліся толькі паасобныя, параскіданыя ў беспарадку хаткі. У адной такой хатцы, самай убогай, ветліва пабліскваў агеньчык. Я разлічыў, што ў бядняцкай хаце я напэўна знайду прытулак і ахову ад праследвальнікаў. І не памыліўся.

Мяне пусцілі ў хату, нават не запытаўшыся і не паглядзеўшы, хто я такі. Калі я выказаў з гэтага поваду сваё здзіўленне, гаспадар адказаў:

— Добрага чалавека я кожнага гатоў прыняць: а ліхі і сам да мяне не пойдзе. Што ён тут знойдзе? Апрача кучы дзяцей—нічога.

— Нарадзіліся яны на сваё няшчасце і на наша гора,—сказала маці, змучаная жанчына, якой можна было даць і трыццаць і пяцьдзесят гадоў.

— Што і казаць,—згадзіўся гаспадар,—няшчасце вялікае. Асабліва цяпер, калі немцы пазабіралі ўсё, што можна было ўзяць.

Гаспадар са злосцю плюнуў і прабурчэў:

— Хоць-бы хутчэй і на іх галаву ліха прышло.

— А вы чакаеце большэвікоў?—спытаўся я

— Ды хто-ж іх не чакае, апрача паноў?—усклінуў ён, але зараз-жа схамянуўся, скоса паглядзеў на мяне і панура прамовіў:—У мяне вырваліся небяспечныя словы. Я не ведаю, хто вы такі. Можа ад гэтых самых паноў. Ну, што-ж, мне ўсёроўна; можаце рабіць са мною, што хочаце.

Я ўзяў яго за руку і сказаў:

— Не, дарагі таварыш, я толькі што з таго боку, ад большэвікоў.

Падышла бліжэй маці. Падсунуўся і дзесяцігадовы хлопчык. Баязліва села на ўскраек лавы васьмігадовая дзяўчынка. На палацях уважліва прыслухоўваўся сямігадовы хлопчык, нават пяцігадовы хлопчык і той зацікавіўся. Толькі двухгадовая дзяўчынка драмала на тых-жа палацях ды аднагадовае дзіця спала ў сваёй нязграбнай калысцы.

Але нічога сказаць ім я не паспеў.

Воддалі пачуўся брэх сабакі, галасы. Мы ўсе ўсхапіліся, гаспадар кінуўся да акна.

— Пэўна яны!—сказаў я, рыхтуючыся ўцякаць.

— Нельга, убачаць,—затрымаў мяне гаспадар, аглядаючы сваю хату, а гаспадыня ўсклікнула:

— Няхай лажыцца на палаці, а мы на яго паложым нашых дзяцей.

Мігам лёг я ўздоўж сценкі, на мяне навалілі рознага рыззя і пачалі „аблепваць“ дзецьмі. Проста кажучы, пачалі поперак класці дзяцей галовамі на мяне, як на падушку.

Бацька тым часам казаў:



— Памятайце, дзеці: нікому нічога не казаць. Гэтаму дзядзі трэба схавацца

На дварэ пачуўся тупат, потым бразганне дзвярэй. У хату ўвайшло некалькі чалавек.

— Да вас заходзіў цяпер які-небудзь чалавек?— пачуўся рэзкі голас.—Толькі праўду казаць, а то...

— Не, паночку, ніякага чалавека не было,— загаварылі разам гаспадар і гаспадыня.

— Паглядзім.

Я чуў, як яны пачалі тупаць па хаце, то набліжаючыся, то аддаляючыся ад мяне: відаць, яны шукалі па ўсіх кутках.

Старэйшы хлопчык прыўстаў і абапёрся на мяне локцем. Я быў яму вельмі ўдзячны, бо гэта павінна было мець вельмі натуральны выгляд. Але-ж як я здзівіўся і занепакоіўся, калі заварушыўся пяцігадовы хлапчук, а потым узяў ды ўсеўся на мяне. Маці, відаць, таксама занепакоілася і пачала гаварыць:

— Коля! Ты чаго ўстаў! Лажыся, спі!

Яна хацела сама палажыць яго на месца, але ён стаў упірацца, крычаць: „не хачу!“ На маёй спіне пачалася тузаніна.—(Пазней мы даведаліся, што ён садзіўся на мяне для таго, каб „яны не знайшлі дзядзю“; ён лічыў, што гэткім чынам ён мяне лепш схавае).

Тады я пачуў словы, ад якіх у мяне сэрца сціснулася. Казаў адзін з прыбыўшых, стараючыся надаць свайму голасу надзвычайную пяшчоту:

— Коля, ты не спаў? Ты бачыў дзядзю, які да вас прыходзіў? Вось табе цукерка, во яшчэ. Скажы, быў тут дзядзя?

Стала так ціха, што я забаяўся, каб ворагі не пачулі стука майго сэрца. І цягнулася гэта, як мне здавалася, доўга-доўга.

— Ну, скажы,—паўтарыла маці нежывым голасам.

— Не...—хрыпла адказаў хлапчук.

— Пойдзем тады ў наступную хату,—сказаў ужо не пяшчотны голас.

Ішчэйкі вышлі.

Толькі праз дваццаць год мне давялося зноў пабываць у гэтым горадзе. Вядома, я зараз успомніў сям‘ю, што калісьці выратавала мяне, і захацеў наведаць яе.

Дзе яны цяпер? Што з імі? Ці выжылі яны?

З такімі думкамі я набліжаўся да знаёмага месца.

Але што гэта такое? Знаёмае месца зрабілася зусім незнаёмым. Тыя вулічкі, па якіх я тады ішоў, яшчэ захаваліся, але там далей, дзе стаялі паасобныя хаткі, высяцца камяніцы. За імі віднеюцца фабрычныя карпусы.

Я ўсё-ж такі падышоў да таго месца, дзе была хатка. Я добра памятаю, што яна стаяла каля яра. Цяпер тут прыгожы чатырохпавярховы дом з вялікімі вокнамі і балконамі. Паспрабую спытацца вось у гэтай паважанай жанчыны, ці не жыве тут, наколькі памятаю, тав. Карнейчык.

— Карнейчыка няма,—кажа жанчына,—а ёсць Карнейка. Можа ён патрэбны?

— Не ведаю. Гэта той чалавек, які меў воесь тут сваю ўласную халупку.

— А-а, гэта Карнейка! Я—яго дочка. Пойдзем я вас завяду.

— Вы?—здзівіўся я.—Мусіць тая самая...

— Якая?

— Што дваццаць гадоў назад, разам з брацціямі і сёстрамі выратавала мяне ад смерці.

— А-а, ведаю і трохі сама памятаю!—засмяялася яна.—Калі ласка, заходзьце.

Далей стала зусім не такое, што я раней бачыў.

У кабінеце сустрэў мяне высокі, салідны чалавек, чыста ўбраны, голены, зусім не стары—гэта, бачыце, мой гаспадар, у якога я дваццаць гадоў назад знайшоў прытулак.

А гэта паважаная жанчына з вясёлым тварам і пышнымі сівымі валасамі—тая самая змучаная маці, якая лічыла вялікім няшчасцем мець дзяцей.



— Ці ўсе жывы і здаровы вашы дзеці—мае збаўцы?—пытаюся я.

— Усе, ды толькі разляцеліся ў розныя канцы нашай краіны,—адказала маці.—Вось толькі яна тут, брыгадзіршай на фабрыцы. Мае сваю кватэру і сваю сям‘ю. Ды малодшая вучыцца ў педагагічным інстытуце.

— Яна не прымала ўдзелу ў вашым выратаванні,—з усмешкай сказаў бацька.—Яна тады спала ў сваёй калысцы. Старэйшы сын цяпер дырэктар трэста. Другі сын—інжынер. Яшчэ адна дачка—доктар.

— А як той Коля, што мяне не выдаў?

— Ведаю, помню,—засмяяўся бацька,—і наўмысля маўчу аб ім, бо кожную мінуту чакаю яго самога. Убачыце і вы самі.

За акном зашумела машына. Бацька зірнуў у акно і ўскочыў, крыкнуўшы: „ён!“

У пакой уваходзіў малады, стройны лейтэнант з ордэнам на грудзях.

— Вось гэта і ёсць той самы Коля,—сказаў бацька,—а цяпер старшы лейтэнант Нікалай Андрэевіч Карнейка, прыехаў дадому ў водпуск.

Я не хацеў перашкаджаць іхняй сямейнай сустрэчы і ўстаў, каб ісці. Але мяне сілком затрымалі, і я правёў у гэтай сям‘і некалькі гадзін, мусіць самых прыемных у маім жыцці.



# Сыны

*Апавяданне Е. САДОЎСКАГА*

У Ціхона Вішняка шэсць сыноў. У наш час гэта такое багацце, што нічога даражэй яго ў краіне няма. Да і сам Ціхон Вішняк, не гледзячы на свае 60 год, выглядае моцным дубам. І збрый ты старому калгасніку бараду, якая толькі нядаўна пачала сівець, і пастаў яго побач з сынамі: Паўлам, Алексеем, Сцяпанам, Нікалаем, Сяргеем, Мітрыем, бадай заблытаешся, дзе тут бацька, дзе сыны. У калгасе Ціхон Андрэевіч—старшы садавод, а сад гэты пад Слуцкам лічыцца лепшым. Тысяча гектараў добра дагледжаных дрэў! Увосень ад яблык і ігруш галіны гнуцца. Яблыкі румянцам наліты, ігрушы смачныя, сакавітыя... Добры садоўнік Ціхон Андрэевіч!

А калі паглядзець, якіх ён сыноў вырасціў! Статныя, рослыя, адзін у аднаго і ўсе, як багатыры. Тры старшыя—Павел, Алексей, Сцяпан даўно ўжо не дома. Павел яшчэ ў 1920 г. пайшоў служыць у Чырвоную армію,—дзе толькі ні быў, на якіх толькі фронтах не змагаўся. З Будзённым браў Касторную, з Будзённым гнаў белапалякаў пад Кіевам, а пасля, калі даведаўся, што яны родны Слуцк грабяць, адпрасіўся ў Семёна Міхайлавіча і пераехаў на Заходні фронт. З той пары Павел не пакідае радоў Чырвонай Арміі.

Услед за Паўлам пайшлі служыць Алексей, Сцяпан, і яны пажыццёва засталіся ў арміі. У водпуск прыедуць у калгас,—не налюбуецца Ціхон з сваіх сокалаў. Сам ім лепшых яблык з дрэў знімае і ўсё просіць:

— Дайце, мае дарагія, з „награнушкі" па страляць...

І аднойчы на калгасны цір тры сына—камандзіры і стары бацька—вышлі на спаборніцтва. Першым, моцна сціснуўшы рукаятку нагана, страляў па чорнаму яблыку мішэні Павел, за ім Алексей, трэцім вышаў на лінію агня Ціхон Андрэевіч. Паважна пагладзіў бараду, пяшчотна на „награнушку" паглядзеў, сцёр рукавом пыл з дула,—а яго-то там і не было,—папрасіў старэйшага сына зарадзіць, доўга цэліўся, а пасля адзін за другім пяць стрэлаў зрабіў. Нецярпліва пачакаў, пакуль па сваёй мішэні адстраляў Сцяпан, а пасля амаль бягом да мішэняў пусціўся. Здзёр свой лісток са сценкі і давай пальцамі прастрэлы мацаць. Калгаснікі цесным кальцом акружылі стралкоў, а шасцігадовы Віця Ледзюк, сынок брыгадзіра трактарыста, нават на слуп узлез, каб лепш бачыць. Пяршынства ў гэтым незвычайным спаборніцтве занялі двое—Павел і Ціхон Андрэевіч—ён толькі на тры ачкі менш старэйшага сына выбіў...



Прайшоў год, і ў Чырвоную армію, хто па прызыву, хто дабраахвотна пайшлі і астатнія сыны калгаснага садоўніка Вішняка— Нікалай, Сяргей, Мітрый... Пачулі ў Маскве, што ў слуцкага калгасніка, знатнага садавода Ціхона Андрэевіча ні мала, ні многа шэсць сыноў, шэсць сокалаў у арміі Чырвонай служаць. А Павел ужо палкоўнікам у чырвонай конніцы. Сабралі ўсіх сыноў у той полк, дзе камандзірам Павел Вішняк, і вызначылі служыць ім разам—умець на конях ліха, па-казацку ездзіць, з пушак метка страляць і па прыкладу Паўла быць гатовымі, калі спатрэбіцца, з сёдлаў перасесці на танк. Павел, Алексей, Сцяпан, Нікалай, Сергей, Мітрый і служаць зараз у адной часці.

Бацьку браты пішуць разам. Ціхон Андрэевіч атрымае пісьмо, не спяшаючы дастане свае акуляры, надзене, разгорне спісаныя лісткі і будзе доўга-доўга чытаць, пакуль не запомніць напамяць кожнае слова, а пасля пакліча старуху і ёй прачытае. Тады яны разам вырашаюць, што адказаць чырвоным коннікам. А нядаўна Павел тэлеграму прыслаў: „Прыязджай бацька курсанты нашы школу скончылі на выпуск запрашаем“.

Апрануўся Ціхон Андрэевіч ва ўсё лепшае. Сеў стары садоўнік у вагон, тэлеграму разгарнуў, а побач з ім адзін маладзенькі ваенны едзе—лейтэнант, з двума кубікамі ў пятліцах. Не можа Ціхон Андрэевіч стрымацца, павінен радасцю падзяліцца:

— Да сыноў еду, тэлеграму, бач, прыслалі, шэсць у мяне. Адзін палкоўнік...Гм...

Маладзенькі лейтэнант слухае, падсоўваецца бліжэй да століка...

— А вы не Вішняк будзеце?—пытае ён.

— Вішняк, а адкуль ведаеце?—здзіўляецца Ціхон Андрэевіч.

— Пра вашых-жа сыноў столькі пішуць...

Грукацяць калёсы... Мерна адбіваюць такт... У Ціхона Андрэевіча на сэрцы такая радасць, такая радасць...

І ён, пагладжваючы мяккую пушыстую бараду, гаворыць свайму спадарожніку-лейтэнанту:

— Шэсць сыноў у мяне, а калі вайна, я сёмым да іх стану, і тады Вішнякі пакажуць, як за маці-радзіму, за прысягу чырвоную змагацца трэба...



# Вершы Т. Г. ШЭЎЧЭНКА



У сакавіку гэтага года споўніцца 125 год з дня нараджэння вялікага украінскага паэта Тараса Грыгор'евіча Шэўчэнка.

Гэты юбілей будзе ўрачыста святкаваць уся наша краіна.

У вершах Шэўчэнка гучыць гнеў. Яны заклікалі народ да барацьбы з царом і памешчыкамі.

Усе савецкія рэбята павінны ведаць аб жыцці Шэўчэнка, павінны вывучаць творчасць вялікага народнага паэта.

## ТРЫНАЦЦАЦЬ МНЕ ТАДЫ МІНАЛА

Трынаццаць мне тады мінала.
Я пас ягняты за сялом.
Ці гэта сонейка так ззяла,
Ці так мне весела было?
Што раптам добра, добра стала.
Ды не доўга сонца грэла,
Мяне весяліла...
Запякло, зачырванела
І рай запаліла.
Я ачнуўся—дзіву даўся:
Сяло пачарнела,
Неба сіняе і тое
Раптам памарнела.
Паглядзеў я на ягняты—
Не мае ягняты!
Азірнуўся я на хаты—
Няма ў мяне хаты!
Не дае мне бог нічога!..

Пераклад М. Клімковіча



## ЗАПАВЕТ

Як памру, дык пахавайце
Мяне на кургане,
Сярод стэпу шырокага
На Украіне слаўнай,
Каб бяскрайнія разлогі,
І Дняпро, і кручы
Было відна, было чутна,
Як грыміць грымучы.

Як ён змые з Украіны
У сіняе мора
Кроў ворагаў... Вось тады я
І поле і горы—
Усё пакіну, паляту я
Да самага бога
Памаліцца... Да таго-ж я—
Не ведаю бога.

Пахавайце, ды ўставайце,
Ланцугі парвіце,
І варожай злой крывёю
Волю акрапіце.
І мяне ў сям'і вялікай,
Сям'і вольнай, новай
Памянуць вы не забудзьце
Нязлым ціхім словам.

Пераклад З. Бядулі.



ТАРАС ГРЫГОР'ЕВІЧ ШЭЎЧЭНКА ў турме.



# ЛЯСНАЯ КАЗКА

*Казка А. БОКАВА* *Рысункі В. ЦІХАНОВІЧА*

Вавёрку разбудзіў стук па дрэву, у дупле якога яна жыла. Вышэй яе гнязда працаваў дзяцел. Трэба паглядзець, які там непакойны сусед пасяліўся. Высунуўшыся з дупла, звярок заплюшчыў вочы і схаваўся зноў. Што гэта, уся зямля пабялела і глядзець на яе нельга?!

Трохі счакаўшы, яна азірнулася, прызвычаілася да белай коўдры зямлі і са свістам і шчоўканнем пачала спускацца ўніз. Белая зямля была ўжо блізка. Звярок скокнуў і ад страху прысеў нерухомы. Зямля правалілася! Улетку яна не правальвалася нават тады, калі прыходзілася скакаць на яе з вялікай вышыні. Звярок пачаў свісцець і хутка разграбаць снег.

Азірнуўшыся, ён заважыў, што кожнае дрэва стаіць на сваім месцы; гэта супакоіла ляснога жыхара. А калі ён праверыў зімні запас арэхаў і пераканаўся, што ніхто яго не чапаў,—зрабілася яму зусім добра. Звярок спусціўся ў роў, напіцца. Высокай густой травы ў ім не было, а ручай, што струменіў улетку, знік.—Дзе ён? Дзе ён?—непакоілася і скакала жвавая вавёрачка, махаючы пышным хвастом. Яна прыклала вуха да пакрытага снегам лёду і выразна пачула, як пад снегам бурчэў ручай.—Жывы! Жывы!—узрадавалася яна, але ніхто не адказаў ёй. Як відаць, паблізу не было ні адной вавёркі. Яна паімчала ў лес, скачучы з купінкі на купінку, узбіраючыся на высокія пні. Дзесьці недалёка прапяяў певень. Вавёрцы спадабаўся яго голас. Яна паспяшыла ў той бок і апынулася каля лясной старожкі.

У пяць скачкоў яна ўзабралася на высокае дрэва, прымасцілася на верхавіне і пачала прыглядацца. Вакол жылля хадзіў певень, старанна паўтараючы сваё кукарэку. Якім смешным здаваўся ён вавёрцы: ён не ўзлезе нават на самую нізкую лазінку! Певень важна гуляў сярод курэй, не ведаючы, што за ім сочаць зверху. На ганку паказаўся стары з карытцам у руках. Ён паставіў карытца на зямлю і пайшоў. Куры згрудзіліся ў кружок, мусіць нешта смачнае вынеслі ім на абед.

З коміна старожкі паплыў дым. Ляснік клапаціўся, каб ноччу было цёпла. Набліжаўся вечар. Адна за другой куры знікалі ў чорным акенцы. Певень схаваўся апошнім.—Якое ў яе вялікае дупло?—думала вавёрка, вяртаючыся ў сваё жыллё. У поцемках яна ўсё прыслухоўвалася, ці не спявае певень лесніка. Імкнулася ўявіць сабе дым, які ішоў з коміна; ён быў зусім падобны да хваста вавёркі—пушысты і шэры.

Ёй не спалася. Яна выглянула і ўбачыла неба, усыпанае зоркамі. Тут яна ўспомніла, што так свяціліся асеннімі начамі гнілушкі, якія яна выкідала з дупла, каб лепей зрабіць гняздо.

Больш за ўсё ёй падабаўся месяц, які вісеў на галінцы дрэва, як вялікі залаты арэх. Ёй хацелася сарваць яго і схаваць у сваё гняздо.

Ёй прыснілася, што некалькі вавёрак сарвалі залаты нябесны арэх, выкацілі яго на лясную паляну і гулялі вакол яго ўсю ноч.

* * *

Вярнуўшыся з абходу, ляснік адпачываў за самаварам. Шум самавара разбудзіў мурлыку. Ён саскочыў лянiва, уразвалку, пайшоў да стала. Паснедаўшы, ён пазяхнуў і разлёгся на сонечным прыпёку.

Самавар ужо сціх, і ў старожцы зрабілася ціха. Ляснік думаў, што трэба будзе з'ездзіць у горад і купіць усё, што патрэбна ў хаце. Для курэй няма больш аўса, канчаўся чай, без якога ляснік не мог жыць і тыдня. Ён апусціў галаву і задумаўся.

Раптам нехта лёганька пастукаў у акно. Ляснік азірнуўся, але нікога не ўбачыў.

Ён падумаў, што гэта вецер. Зноў пастукалі, і на гэты раз не пабаяўся паказацца той, хто стукаў. Як узрадаваўся ляснік, калі ўбачыў за акном жвавую маладую вавёрачку. Яна махала хвастом, а лапкай мыла мордачку. Госця смела аглядала хату, не баючыся чалавека. Яна прывіталася са знаёмым старым, які ёй спадабаўся з першай-жа сустрэчы.

— Добры дзень ляснік!—хацелася сказаць ёй.— Як ты жывеш? Ці не пазычыш ты мне арэхаў? Я табе ўлетку аддам, мае ў мяне нехта скраў, або заменімся на грыбы.

Ляснік падумаў:—Будзе добра, калі я яе спаймаю і прыручу. Яна не будзе спаць, як лянівы кот. Ён вышаў і паціху падабраўся да падаконніка, але певень, які гуляў з курамі, убачыўшы гаспадара, паспяшаўся да яго і выкрыў яго. Вавёрка пакінула акенца і ўмомант схавалася ў густой яліне. Ляснік доўга разглядаў, куды падзелася вавёрка, хадзіў вакол гэтай ёлкі, і вавёрцы вельмі смешна было глядзець на яго. Яна нават парашыла пажартаваць з ім: сарвала яловую шышку і трапіла яму ў галаву.

— Дурненькая!—узлаваўся ляснік,—нашто дабро кідаць,—спатрэбіцца, можа зіма доўгая будзе.

* * *

Некалькі дзён ішоў вялікі снег, і вавёрка была дома. Калі засвяціла сонца і на небе не стала воблакаў, яна пакінула дупло, каб пагуляць. Цяпер снег ляжаў не толькі на зямлі, але і на дрэвах. Часам схіленае пад цяжарам галлё скідала з сябе камякі навіслага снегу, і пры кожным падзенні ў лесе чуўся глухі гук: о-о-х!, нібы гэта ўздыхалі вызваленыя галінкі. Снегу было так многа, што ручая зусім не было чуваць у яры. Вавёрка ў некалькіх месцах разгрэбла снег да самага лёду, і ўсё-ж не было чуваць вясёлай балбатні ручая. Падняўшыся туды, дзе пачынаўся роў, яна ўбачыла, што ўвесь ён пераблытан слядамі. Панюхала, пах быў чужы. Азірнулася навакол. Вялікі камяк снегу зваліўся ў арэхавы куст і ў той-жа час з-пад куста выскачыў другі белы камяк і кулём пакаціўся ў роў. Гэта быў заяц. Ён бегаў з аднаго логава ў другое: падаўшы снег не даваў касому паляжаць спакойна. Вавёрка ўспомніла ляснiка і пачала прабірацца да яго. Певень чамусьці маўчаў, таму старожку шукаць было цяжка. Вавёрка доўга блукала, перш чым знайсці яе. Не пазнаць хацінкі! Усю запарушыла снегам. Пеўня з курамі няма, дым з коміна не ідзе. Што зрабілася з ёй? Вавёрка пастукала ў акенца раз, другі, ляснік не паказваўся. Яна абегла кругом хацінку, пасвісцела, пашчоўкала, паглядзела яшчэ раз у акно—нікога. Яна парашыла, што ляснік на абходзе, выбрала самую высокую ёлку і забралася на верхавіну, каб убачыць яго. Сонца спакойным святлом залівала лясную паляну, на якой стаяла старожка. Кожная сняжынка зіхацела, і ад гэтага звярку стала весела. Гэта асляпіла яго і ён забыўся, дзе знаходзіцца, навошта ўзлез сюды.

Звярка заўважыў паляўнічы, нацэліўся і выстраліў. Звярок вогненным камяком паляцеў у снег.



* * *

Ляснік вяртаўся дамоў з горада. Чым бліжэй ён падыходзіў да старожкі, тым хутчэй яму хацелася папасці ў яе. Калі ён быў у горадзе, ён нікога не забыў: курам купіў аўса, кату мышалоўку,—сам кот па старасці мышэй лавіць не мог, а злоўленую еў з ахвотай. Не забыўся ён і пра вавёрку, купіўшы для яе прасторную клетку. Ён парашыў спаймаць і прыручыць яе.

Каля старожкі ён сустрэў паляўнічага.

— Ну, як паляванне?—спытаў ляснік,

— Паскардзіцца нельга,—адказаў паляўнічы і паказаў лесніку забітых вавёрак. Пушыстыя хвасты звяркоў блішчэлі на сонцы. Ляснік перабіраў вавёрак і спыніўся на адной з іх. Ён доўга глядзеў на яе і, нарэшце, спытаў:

— А гэтую дзе ўзяў?

— А гэта каля тваёй старожкі ўсё скакала, вунь з той ёлкі ўзяў... Добрая?

Ляснік пазнаў вавёрку, нічога не адказаў паляўнічаму і моўчкі пайшоў у сваю хацінку.

# ПІСЬМЕННІКІ-ОРДЭНАНОСЦЫ СОВЕЦКАЙ БЕЛАРУСІ



*Народны паэт БССР*
*ЯКУБ КОЛАС*
*узнагароджаны ордэнам Леніна*



*Народны паэт БССР*
*ЯНКА КУПАЛА*
*ўзнагароджаны ордэнам Леніна*



*Пісьменнік ЗМІТРОК БЯДУЛЯ*
*ўзнагароджаны ордэнам*
*„Працоўнага Чырвонага Сцяга“*



*Паэт ПЯТРУСЬ БРОЎКА*
*ўзнагароджаны ордэнам*
*„Знак Пачота“*

Янка Купала

## СЭРЦА І ДУМКА МНЕ КАЖА...

Сэрца і думка мне кажа.
Гоманы кажуць на ніве:
Песню маю той заўважыў,
Той, хто народы ўшчасліві̇ў.

Радасць хай будзе мне сведкай,
Свет няхай бача і людзі—
Нібы цудоўная кветка,
Ордэн галубіць мне грудзі.

Ці сонцу ў вочы я гляну,
Ці ў вочы зорак свабодных,
Будзе ён мне талісманам,
Зоркай маёй пуцяводнай.

Ленін на сэрцы шчаслівым,
Леніна ў сэрцы заветы,
Ясныя думак парывы
Песняй імкнуцца над светам.

Песнямі ўслаўлю сваімі
Наша жыццё маладое.
Раніцай, вечарам імя
Сталіна будзе са мною.

Вочы мне з часам самкнуцца,
Жвір мяне ўхутае цвёрды,—
Жыць між людзей застануцца
Песня і Леніна ордэн.



*Пісьменнік МІХАСЬ ЛЫНЬКОЎ*
*узнагароджаны ордэнам*
*„Працоўнага Чырвонага Сцяга“*



*Пісьменнік ЭДУАРД САМУЙЛЁНАК*
*узнагароджаны ордэнам*
*„Працоўнага Чырвонага Сцяга“*



*Паэт ПЯТРО ГЛЕБКА*
*ўзнагароджаны ордэнам*
*„Знак Пачота“*

# ДЗЕДАВА НАВУКА



*Апавяданне П. РУНЦА*

*Рысунак К. ГЕДДА*

Дзеду Мітру пад шэсцьдзесят, але ён яшчэ дзябёлы і моцны. Працуе на калгаснай электрастанцыі машыністам. Сваю работу дзед любіць. Цэлыя гадзіны корпаецца каля рухавіка: аглядае, чысціць, змазвае. Машына ў яго блішчыць. За акуратную работу яго цэняць і паважаюць калгаснікі. Два разы прэміравалі. Вечарамі дзед яшчэ ходзіць вучыцца ў вячэрнюю школу.

Аднойчы дзед сядзеў каля стала і чытаў кніжку. Ён упарта ўглядаўся ў малюнкі, чарцяжы, вохкаў, моршчыўся. Ад напружанасці ажно пот выступіў на ілбе: нялёгка давалася навука старому. У гэты час са школы прыбег Міша,—невялічкі востраносенькі хлапчук, з круглым, як яблычка, тварам. Ён вучыўся у трэцім класе. Хутка раздзеўшыся, Міша падышоў да дзеда.

— Цяжка вучыцца, дзядуля?—раздаўся яго звонкі голас над самым дзедавым вухам. Мітра падняў галаву і любоўна глянуў на ўнука.

— Нялёгка, унучак, не тыя годы,—сказаў дзед і ўжо чулліва дадаў:—У вачах двоіцца, памяць аслабла. Зайздрошчу я табе... У шчаслівы час нарадзіўся ты, унучак.

„Чаму ён не вучыўся, як быў малы?“—падумаў Міша. Гэта яго зацікавіла, і ён рашыў неадкладна даведацца. Міша падсеў да дзеда, прытуліўся да яго суталаватай фігуры і давай прасіць:

— Дзед, дзедка, раскажы...

Дзед усё адмаўляўся. Але Міша не здаваўся і яшчэ больш настойліва ўпрашваў. Тады дзед падкруціў свае пышныя вусы і лагодна сказаў:

— Як я бачу, ад цябе не адчэпішся. Упарты ты, шыбенік,—пявуча кажа дзед,— у мяне ўдаўся. Калі наважыш што зрабіць, зробіш. Ну, добра.

Пачало цямнець. Маці запаліла грубку. Селі яны каля печкі. Цёпла. Утульна. Патрэскваюць яловыя дровы, гудзе сярдзіта агонь, шуміць вецер за акном. Пад гэту дзіўную музыку дзед распачаў апавяданне пра далёкую невясёлую мінуўшчыну.

— Вучыцца, унучак, даўней была нялёгка. Як цяпер памятаю, аднаго разу вышаў

я на вуліцу, а ў канцы вёскі куча дзетвары. Я туды. Падыходжу, аж Захарка, сынок кулака, расказвае пра горад, пра вялікія дамы, пра аўтамабілі. Ён ужо ў горадзе вучыўся, а я свіней пас. Зайздросна стала. Думка аб вучэнні яшчэ глыбей запала ў маю душу. З таго дня, толькі і думаў пра школу. Аднойчы за абедам не сцярпеў і сказаў бацьку, што хачу вучыцца. Бацька выслухаў мяне, а потым сурова сказаў:

— Няма чаго думаць. Навука грошы патрабуе, а я дзе іх вазьму?—Сам бачыш, што ледзь зводжу канцы з канцамі. Не да навукі беднаму чалавеку.

Мае найлепшыя мары разбіваліся аб сцяну бацькавай галечы. Не, зміріцца з гэтым я не мог. Але што-ж рабіць? Пасля нядоўгіх разважанняў я пусціўся на рызыку.

— Не пусціце вучыцца—уцяку. Буду жабраваць, валацужыць, але назбіраю грошай і пайду вучыцца.

Бацька насцеражыўся і ва ўпор глянуў мне ў вочы. Бровы ўздрыгнулі і злучыліся на пераносіцы ў адну лінію.

— Ты гэта ўсур'ёз?

— Не жартую,—не задумаўшыся, выпаліў я.

План мой удаўся. Бацька ведаў маю настойлівасць, упартасць і рашучасць. Каб ажыццявіліся мае намеры, ён згадзіўся паспрабаваць мяне вучыць.

Дзед уздыхнуў. Потым паправіў у печцы дровы і цягнуў нітку апавядання далей.

— Памятаю, надышоў доўгачаканы дзень. Прачнуўся я раней звычайнага, наспех перакусіў і пачаў збірацца ісці. Маці дала ў торбу кавалак чорствага хлеба, і я рушыў у дарогу. Да школы было 15 кілометраў. Пакуль прышоў, замарыўся. Але як убачыў школу, сэрца так і заныла. І на зморанасць забыўся. Мне пашанцавала: я быў прыняты ў гарадское вучылішча, у якім вучыліся звычайна дзеці багацеяў. Маёй радасці не было канца-краю. Але радасць мая аказалася вельмі кароткай. Правучыўся я чатыры дні. На пяты прыходзіць у клас вусаты дзядзька з доўгім гарбатым носам і вялікай бліскучай, як месяц, лысінай на галаве і, трымаючы ў руках журнал, пытае:

— Саладуха ёсць?

— Тут!—выгукнуў я ўзняўшыся.

Ён агледзеў маю бедную вопратку, гідліва скрывіўся і адвярнуўся. Яму, відаць, непрыемна было бачыць такога абарванца ў сваёй школе.

— Вам неабходна ўнесці за навучанне 2 рублі. У выпадку няўплаты вы будзеце пазбаўлены магчымасці навучацца ў нашай школе,—аб'явіў ён, не гледзячы на мяне.— Усе ўжо ўнеслі,—з дакорам сказаў ён і, крута павярнуўшыся, хутка вышаў.

Праз знаёмую цётку, якая прыязджала к фельчару, наказаў я дадому. Назаўтра прышоў бацька. Я расказаў усё. Бацька слухаў уважліва, а калі я сказаў, колькі мне патрэбна грошай, ён падумаў і перапытаў:

— Дык колькі будзе каштаваць у месяц твая навука?

— Чатыры рублі,—хуценька паўтарыў я.

Бацька спахмурнеў. Немігаючыя яго вочы памутнелі. Я не здагадаўся, што назваў суму, непасільную для такога бедняка. Ён палажыў на маё плячо сваю чорную заскарузлую руку і дрыжачым роспачным голасам сказаў:

— Сынок, ты вось радуешся, значыцца, а таго не ведаеш, што ў мяне пры душы капейкі няма. Ча-ты-ры рублі. Зарабляю ў месяц я тры рублі. Ну, аддам, значыцца, табе. А дзе-ж яшчэ рубель дастаць? З гаспадаркі прадаць няма чаго. А ты-ж у мяне не адзін. На маім карку яшчэ чатыры душы. Трэба-ж, значыцца, і аб іх думаць. Разумееш? Каб ты ў мяне адзін быў... Другая гаворка была-б. А так... я-ж табе гаварыў... аб навуцы няма чаго і думаць. Сам бачыш, не па плячу яна беднякам. Збірайся дамоў. Я табе ўжо і работу падшукаў—застанешся ў Ігната за парабчука.

На гэтым і скончылася мая навука.

# Ці ведаеш ты?

## НАЗВЫ ГАРАДОЎ

Смаленск існуе ўжо больш тысячы год. Сваё імя ён атрымаў вось адкуль. У старыну адзіным сродкам зносін былі рэкі. Па рэках на лодках перавозілі тавары з аднаго канца краіны ў другі. Праз усю Русь пралягаў доўгі гандлёвы рачны шлях, які называўся „з Варач у грэкі". Ён звязваў Варажскае ці па-цяперашняму Балтыйскае мора з Рускім морам, г. зн. з Чорным.

Не ўсе рэкі на гэтым шляху былі злучаны паміж сабою. Праз палоскі зямлі, якія ляжалі паміж рэкамі, прыходзілася лодкі цягнуць па зямлі. Ад гэтага яны псаваліся. Трэба было іх рамантаваць, перш чым спусціць на ваду. Галоўным пунктам для пачынкі вялікіх лодак быў горад, размешчаны на рацэ Дняпры, недалёка ад рэчкі Ловаці. Тут судны канапацілі, красілі і смалілі. Вакол горада раслі вялікія хваёвыя лясы, у якіх здабывалі смалу. З тых пор горад атрымаў назву „Смаленск".

* * *

У чатырох гадзінах язды ад Масквы, па дарозе на поўдзень, знаходзіцца горад Тула, таксама вельмі дрэўні. Такі дрэўні, што ніхто нават не ведае, калі ён быў асноўван. Затое вядома, адкуль ён атрымаў сваю назву. Праз Тулу працякаюць дзве рэчкі—Упа і Туліца. Рака Туліца працякала ў старыну па драмучых лясах, акружаўшых горад суцэльнай сцяной. Рака нібы хавалася, тулілася ў непраходзімым лясным гушчары. Рэчку за гэта празвалі Туліцай, а па імені рэчкі і горад—Тулай.



# У ВОЛЬНЫ ЧАС

## ЗАДАЧКА

Вазьмі 17 запалак і зрабі 6 квадратаў. Потым адымі 3 запалкі так, каб атрымалася 4 квадраты.

Прыслаў

**Віца Купрэйчык.**
Хойніцкі раён.



## ЗАГАДКІ

**Увесь звіўся ў клубок**
**І маўчок—**
**І не чхне, хітруга.**
**Дай-жа глянуць, дружок, галубок,**
**Што ты за звяруга!?**

**Гэта што за дактары**
**Бор выслухваюць стары**
**Ды, прысеўшы на галіне,**
**Б'юць насамі па хваіне.**



# ЗІМОЮ

СЦЁПКА—НЕПАСЕДА
ВЕСЕЛА КРЫЧЫЦЬ:
ЭЙ, ДАВАЙЦЕ ДЗЕДА
СНЕЖНАГА ЛЯПІЦЬ!

ДРУЖНА ДЗЕЦІ КОЦЯЦЬ
ТОЎСТЫ СНЕЖНЫ КОМ
І СА СНЕГУ РОБЯЦЬ
ДЗЕДА З ПАМЯЛОМ.

ЛЕДЗЯНУЮ ЛЮЛЬКУ
У РОТ СЦЁПКА ДАЎ,—
СА СВАЙГО ДЗЯДУЛЬКІ
КОЖНЫ ЖАРТАВАЎ.

*Дзяткор* ***ВАЛЕНЦІНА НАСЕВІЧ.***

Цана 30 кап.

# РЫХТУЕМСЯ ДА АБАРОНЫ НАШАЙ РАДЗІМЫ



1. Піонерка Шура Татарнікава з Барысаўскага р-на вырасціла аўчарку Герту і перадала яе пагранічнаму атраду.



2. Варашылаўскі коннік Ваня Савін. Ён староста гуртка юных кавалерыстаў у сваім калгасе „Новае жыццё“ (Барысаўскі р-н).

## СУСТРЭЧА З НЕЗНАЁМЫМ

Аднойчы ўвечары іду я з клуба дамоў. Падыходзіць да мяне нейкі незнаёмы і просіць паказаць дарогу на Менск. Я абгледзеў яго з галавы да ног і пытаю:

— А як-жа ты дабярэшся да яго?

— Пеша дайду,—смела адказвае незнаёмы.

— Дзе-ж твой бацька і маці?

— Бацька працуе ў горадзе, а маці няма.

За плячыма ў яго вісела торба і пад пахаю ён трымаў нейкі вузел.

— Што-ж ты нясеш свайму бацьку?

— Нічога... ну... хлеб нясу, хочаш пакажу.

У вузле сапраўды быў хлеб.

— Слухай, калі жадаеш—пойдзем са мною. У мяне ёсць знаёмы, ён давязе цябе,—прапанаваў я, каб убачыць ці ўзрадуецца ён гэтаму выпадку.

— Ой не, не хочу ехаць,—запярэчыў хлапчук.

Я зразумеў, што незнаёмы не наш і зараз-жа даставіў яго ў пагранатрад.

За праяўленую пільнасць Вярхоўны Совет БССР узнагародзіў мяне граматай.

Ваня Гулеўскі.



3. Многія рэбята авалодваюць кулямётам. Вось першае азнаямленне з ручным кулямётам Дзехцярова.



4. На занятках гуртка БГСА ў Менскім палацы піянераў і акцябрат. Рэбята вучацца аказваць першую дапамогу.

Рэдактар І. МАСАРСКІ Афармленне В. Ціхановіча Адрас рэдакцыі: МЕНСК, ДОМ ДРУКУ.
Друкарня імя Сталіна, Менск. 17.000 экз. Зак. № 184. $2^1/_2$ друк. арк. Уп. Галоўліта БССР № П—127.